# РУНЬ

газэта беларусаў Літвы

15 лютага 1999 №21 кошт 1 літ


# Віленскай Беларускай Гімназіі - 80



Хто ў гімназіі вучыўся,
Тых часоў ён не забыўся:
Хоць і цяжка нам было —
Слова роднае жыло.
Адусюль зь зямлі каханай,
У той час акупаванай,
Ехалі мы й пешкі йшлі
Ў Вільню родную, каб звацца
Чалавекам на зямлі.
Шмат было нас, але працы
Не цураўся ні адзін,
Не гублялі дзён, гадзін —
Сэрцам, розумам ўспрымалі,
Што настаўнікі давалі.
Між усіх была хвалёна
Пані нашая Алёна
Ды дырэктар Анцукевіч —
Гонар наш і наша веліч,
А Кароль вучыў пяяць
Ды на трубах добра граць.
Незабыўны Барыс Кіта
Сэрца меў усім адкрыта...
Сёньня шмат каго няма —
Мяккім пухам ім зямля!
Дый і вучні разбрыліся,
І іх мары не збыліся, —
Марыў кожны з нас, бадай,
Пра свабодны, вольны Край.
Сёньня Бог нам даў спаткацца,
Па-сяброўску ўсім абняцца
У сьвятых для нас мурах,
Дзе жыцьця пачаўся шлях.
Не загінуў наш хаўрус,
Жыў і жыцьме Беларус!

Мікалай Рулінскі

## Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі ў дакумантах

Безумоўна, найважнейшая падзея ў грамадзка-палітычным жыцьці прабеглага месяца — гэта Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі, які адбыўся ў Менску 29-30 студзеня. На ім у якасьці дэлегата ад Літвы пабываў старшыня ТБК Х. Нюнька. У наступных нумарох «Руні» пастараемся пазнаёміць чытачоў з найбольш яскравымі дакладамі Кангрэсу, прадоўжаўшы такім чынам нашыя публікацыі пад загалоўкам «Беларусь вачыма апазыцыі». А ў гэтым нумары дамо некаторыя са шматлікіх кангрэсавых дакумантаў, якія перадаў рэдакцыі сп. Нюнька і ў якіх, нібы ў люстэрку, адбіваецца увесь спэктар грамадзка-палітычнай, эканамічнай, культуральнай і арганізацый праблематыкі, які хвалюе сёньня беларускую апазыцыю. Выглядае на тое, што, нарэшце, пабудова незалежнай, нацыянальнай па духу, дэмакратычнай краіны становіцца галоўным момантам у аб'яднаўчай плятформе нашай вельмі разьяднанай дагэтуль дэмакратыі. Нам здаецца, што калі б сёньня яна высунула на прэзыдэнта адзінага й сымпатычнага беларускаму народу кандыдата, дык, верагодна, ён атрымаў бы перамогу на заплянаваных кангрэсам выбарах (зразумела, калі выбары ўвогуле адбудуцца). А яшчэ нас зьдзівіла сьмеласьць і палітычныя сьпеласьць польскіх сэнатараў, каторыя ў сваім «Пасланьні Сойму Рэчы Паспалітай да беларускага народу» заявілі:

***«Мы з глыбокай сымпатыяй і павагай ставімся да ўсіх дэмакратычных сілаў у Беларусі, патрыётаў, заклапочаных будучыняй свайго народу, а таксама захаваньнем правоў чалавека й пабудовай эфэктыўнай эканамічнай сыстэмы. Сойм Рэчы Паспалітай маральна падтрымлівае дэпутатаў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, каторыя ня могуць выконваць свае абавязкі. Шмат каго зь іх перасьледуюць, кідаюць за краты. Мы дамагаемся вызваленьня дэпутатаў Андрэя Клімава і Ўладзіміра Кудзінава. Салідарныя з усімі рэпрэсаванымі за змаганьне за свабоду й незалежныя перакананьні. Мы перакананыя, што ёсьць яшчэ шанцы разьвязаць існуючыя праблемы ў дыялёгах паміж уладамі й апазыцыяй. Яны маглі б аблегчыць выйсьце Беларусі са стану міжнароднай ізаляцыі, на якую яна сама сябе асудзіла. Інтыгруючыся з эўраатлянтыцкімі структурамі, Польшча й надалей прагне ўтрымоўваць дабрасуседзкія адносіны зь Беларусьсю. Польшча ўскрай зацікаўленая аднаўленьнем у Беларусі дэмакратычных інстытуцыяў, узмацненьнем нацыянальнай сьвядомасьці й сувэрэннасьці беларускага грамадзтва. Існаваньне дэмакратычнай, сувэрэннай і стабільнай Беларусі ў інтарэсах усёй Эўропы.»***

Падрыхтаваную намі выбарку дакумантаў і рэзалюцыяў Кангрэсу (на тарашкевіцы й зь некаторымі скаротамі) чытайце на ст. 7!

### 1. Гісторыя сьвята

Заслугі Віленскай Беларускай Гімназіі настолькі відавочныя, што яшчэ пры ейным існаваньні была заснаваная традыцыя ўрачыстага сьвяткаваньня юбілеяў гімназіі, ушанаваньня настаўнікаў і выпускнікоў. Першы такі юбілей быў наладжаны на 25-годзьдзе ВБГ у 1944-ым. Юбілею былі адумыслова прысьвечаныя дзьве кніжачкі: малітоўнік «Вучыся і маліся» і зборнік выступленьняў на ўрачыстай акадэміі.

Пазьней, на доўгі савецкі час, ня тое, што юбілей сьвяткаваць, нават узгадваць ВБГ было небясьпечна. Традыцыя сьвяткаваньня была адроджаная толькі 10 гадоў таму: клюб «Сябрына», у складзе якога было нямала колішніх гімназістаў, адзначыў 70-ую гадавіну гімназіі. А калі ў Вільні была створаная беларуская школа, сьвяткаваньне ўгодкаў ВБГ набыло асаблівы сэнс — школа абвесьціла сябе пераемніцай традыцыяў нашай легендарнай навучальнай установы. «Дзень гімназіі» — 1 лютага — стаўся ўлюбёным сьвятам школы. Асабліва ўрачыста адзначаўся 75-гадовы юбілей.

### 2. Аргкамітэт

Сёлета, у сувязі з «круглай датай», было пастаноўлена сьвяткаваць «Дзень гімназіі» ня толькі ў школе, але й шырэй. Дзеля гэтага быў утвораны арганізацыйны камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі настаўніцкага калектыву школы, Таварыства беларускай школы, клюб «Сябрына». Узначаліў камітэт прэзыдэнт ЗБГА Літвы сп. Лявон Мурашка. Былым вучням і настаўнікам ВБГ былі разасланыя запрашэньні-вінШаваньні. На жаль, шмат хто зь іх ужо не мог прыехаць — даслалі толькі свае прывітаньні.

Арганізатары сьвята працавалі шчыра й бескарысна. Узнагародай ім былі сьлёзы радасьці й падзякі былых гімназістаў, якія змаглі сустрэцца ў родных Базыльянскіх мурох.

### 3. Школа

«Дзень гімназіі» ў Віленскай беларускай школе ад самага пачатку задумваўся ня толькі як памятны гістарычны дзень, але й як сьвята сучаснай школы. Так было й сёлета: сустрэча выпускнікоў, канцэрт-конкурс, настаўніцкая канфэрэнцыя, выстава кніжак ды малюнкаў школьнікаў. Дамінантай сьвята сталася адкрыцьцё новай таблiцы на школьным будынку. Выглядае яна як разгорнутая кніга, а на ёй надпіс па-беларуску й па-літоўску «Школа імя Францыска Скарыны». Аўтар — менскі скульптар У. Лятун.

На адкрыцьцё таблiцы прыбыло шмат гасьцей зь міністэрстваў

Працяг на старонцы 2



На лекцыі лацінскай мовы. Настаўнік М. Анцукевіч.



Танцавальны калектыў ВБГ. Першы справа сядзіць кіраўнік Я. Хвораст.

# Віленскай Беларускай Гімназіі - 80

Працяг са старонкі 1

адукацыі Літвы й Беларусі, з розных грамадзкіх арганізацыяў і дзяржаўных установаў. Былі, вядома, і былыя вучні ВБГ.

## 4. Выстава

Да юбілею была прымеркаваная адумысловая фотавыстава. Яна мела наўмэце стварыць візуальны вобраз славутай навучальнай установы, дапоўніць успаміны былых гімназістаў. Фотаздымкі браліся з прыватных архіваў Л. Луцкевіча, Г. Войцік, А. Анцукевіча, З. Каўшанкі, Я. Багдановіча ды іншых настаўнікаў і гімназістаў. Дзяніс Раманюк сфатаграфаваў сучасныя віленскія будынкі, зьвязаныя з гісторыяй ВБГ. Сама ж выстава складалася з шасьці разьдзелаў: «Родныя сьцены» (будынкі, дзе ў розныя часы месьцілася гімназія, Пятніцкая царква, касьцёл Сьв. Мікалая ды інш.), «Вучні ды настаўнікі» (партрэты й калектыўныя тагачасныя здымкі вучняў і настаўнікаў), «Сьвяты й будні» (фрагмэнты штодзённага жыцьця гімназіі), «Жыцьцё грамадзкае» (сувязь гімназіі з грамадзкімі ды палітычнымі арганізацыямі, зь іншымі віленскімі гімназіямі), «Летапісцы» (лёсы былых настаўнікаў і вучняў пасьля ліквідацыі гімназіі), «Новая школа» (пра навачасную Віленскую беларускую школу).

Некаторымі фатаздымкамі з гэтае выставы, арганізатарам якой быў Сяргей Вітушка, мы аздабляем гэты, сьвяточны, нумар Руні.

## 5. Касьцёл і царква

Важнай часткай сёлятняга сьвяткаваньня былі багаслужэньні ў праваслаўным ды каталіцкім храмах. За супакой душаў памерлых настаўнікаў і вучняў ВБГ маліліся вернікі ў віленскіх царквах Сьв. Эўфрасіньні, Сьв. Канстанціна ды Алены, у салечніцкай царкве. У касьцёле Сьв. Барталамэя кс. Ян Шуткевіч адслужыў памінальную імшу, для якой вучні нашае школы развучылі адумысловыя рэлігійныя песьні й прасьпявалі іх на касьцёльных хорах.

Трэба таксама адзначыць, што яшчэ раней, на Дзяды, настаўнікі ды школьнікі дбайна прыбралі ды ўпрыгожылі магілы беларускіх дзеячоў на Росах і Ліпаўцы.

## 6. Базылянскія муры

Урачыстая акадэмія ў гонар 80-годзьдзя ВБГ адбылася ў гістарычным будынку, акурат у былой гімназіяльнай актавай зале. На ўрачыстасьці прыйшлі былыя вучні, іхнія блізкія, настаўнікі й вучні беларускай школы, бацькі вучняў, — заля была поўная. Сцэну ўпрыгожвалі наш бел-чырвона-белы сьцяг і літоўскі трыкалёр. Урачыстасьці былі распачатыя сьпяваньнем гімну «Магутны Божа» на словы выпускніцы ВБГ, нашай знакамітай паэткі Натальлі Арсеньневай. З трыбуны прамаўлялі старшыня аргкамітэту сп. Л. Мурашка й дырэктарка Віленскай беларускай школы спн. Г. Сівалава. Са зьмястоўным дакладам-успамінамі выступіла былая гімназістка спн. Г. Войцік. Цікавымі й эмацыйнымі былі выступленьні былых вучняў ВБГ сп. М. Рулінскага й сп. А. Анцукевіча. Хвілінай маўчаньня ўшанавалі прысутныя памяць настаўнікаў і гімназістаў, якія адыйшлі на вечны спачын. У часе выступленьняў прагучала таксама прапанова зьвярнуцца да гарадзкіх уладаў з просьбаю ўстанавіць на Базылянскіх мурох памятную дошку з напамінаньнем, што тут месьціліся сьвятыя для нас установы: Віленская Беларуская Гімназія ды Беларускі музэй імя І. Луцкевіча.

Падчас перапынку госьці мелі магчымасьць пазнаёміцца з фотавыставаю, якая зьдзіўляла іх, будзіла ўспаміны пра маладосьць...

На канцэртнай частцы вучні беларускай школы чыталі вершы. Удала выступіў беларускі харавы калектыў з Друскенікаў (кіраўніца М. В. Пузіновіч). А закончылася сьвяточная імпрэза сьціплай і пахатняму цёплай гарбаткай-пачосткай у клюбе «Сябрына».

## Віншаваньне з нагоды юбілею ВБГ

прыйшло ад Старшыні Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады **Раісы Жук-Грышкевіч** разам зь лістом, у якім спн. Раіса дзеліцца сваімі ўспамінамі: «Я не гадунец Віленскай Беларускай Гімназіі, але зь дзяцінства духова зьвязаная з гэтай школай, сяброўвала з тройкай мададых вучняў яе: Ларысай, Тацянай і Вячаславам Стаўбунікамі, матка якіх, настаўніца Кацярына Стаўбунік, была беларускай дзеячкай, цесна зьвязанай зь беларускім рухам у Вільні. Дзеці ейныя прыяжджалі на калядніія й летнія канікулы ды расказвалі мне й маёй сястры цудэнькі пра ВБГ, іхніх настаўнікаў і пра Вільню, якая ў нашым дзіцячым уяўленьні раўнялася з паняцьцем Беларусі... Дзякуючы Кацярыне Стаўбунік, ды пасрэдна й ейным дзецям, наша сям'я сталася ўжо ў 20-ыя гады сьведамай беларускай сям'ёй. У нашай хаце было заўсёды поўна беларускай літаратуры зь Вільні...»

Спн. Р. Жук-Грышкевіч даслала таксама багата матар'ялаў наўпрост і ўскосна датычных гісторыі ВБГ. Гэта, па-першае, ейная аб'ёмістая кніга-манаграфія «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», у якой ёсьць нямала старонак зьвязаных зь гімназыяльным пэрыядам жыцьця нашага знакамітага доктара філялёгіі. Гэта таксама ўспаміны пра былых вучняў ВБГ гісторыка Вітаўта Тумаша, мовазнаўцу Станіслава Станкевіча, выдатную паэтку Натальлю Арсеньневу. І шмат чаго іншага, што, безумоўна, будзе выкарыстанае ў нашых далейшых публікацыях.

**Сяргей Вітушка**

## Прэзэнтацыя кнігі

менскага літаратара й мастака Адама Глёбуса «Дамавікамэрон» адбылася ў польскай галерэі 2 лютага. Прэзэнтацыя ўдала спалучылася з адкрыцьцём там жа фотавыставаю А. Адамчык, якая часткова ілюстравала кнігу, і выставай ілюстрацыяў самога А. Глёбуса. Кніга рэдкага ў беларускай літаратуры чыста эратычнага жанру была пададзеная ў двух варыянтах: беларускім і ў перакладзе на польскую мову. Выстава дагэтуль дзейнічае.

## У касьцёле Сьв. Барталамэя

17 студзеня адбылося набажэнства на беларускай мове за беларусаў



Літвы й Беларусі. Былі асьвенчаныя два бел-чырвона-белыя сьцягі. Сьпявак Андрусь Старавойтаў выканаў гімн «Магутны Божа».

**Юры Гіль**

## Чарговы ператрус

учынены беларускім радыё й тэлепраграмам. Эфірны час **«Віленскага сшытка»** — праграмы на LTV — напалову зьменшаны. Цяпер перадачы (у складзе праграмы «Santarvė») будуць выходзіць не штотыдзень, а толькі два разы на месяц, аб **11.20** раніцай, па суботах. Радыёперадачы на II канале Літоўскага радыё: **«Беларускае слова на хвалях Літвы»** — штосерады аб **18.00** (у рамках праграмы «Vaivorikšte»), а **«Навіны для беларусаў Літвы»** — штодзень аб **18.20** (акрамя серады). Нагадаем таксама, што II праграма Літоўскага радыё ад нядаўняга часу рэтрансьлюецца ў дыяпазоне FM.

## Прадстаўнікі беларускіх СМІ ў Літве

напрыканцы студзеня арганізавалі круглы стол з удзелам карэспандэнта вядомай дацкай газэты «Aktuelt» Пэрам Дальгорам. З нашага боку на імпрэзе прысутнічалі старшыня ТБК Х. Нюнька, супрацоўнік «Нашай Нівы» А. Лапцёнак, рэдактар інфармацыйнай бел. праграмы на радыё Літвы Ё. Лаўрынавічус, рэдактар «Руні» А. Мінкін. Гутарка йшла пераважна пра сучаснага грамадзка-палітычнае становішча ў Беларусі й Літве ды пра незалежныя беларускія СМІ ў гэтых краінах. Напрыканцы гутаркі прысутныя выказалі спадзяваньне, што сп. П. Дальгор адэкватна адлюструе пачутае ім, тым больш што ён па прафэсіі славіст і добра арыентуецца ў беларускай праблематыцы.

**А.М.**










Былыя вучні на 75-ым юбілеі ВБГ.



Скаўцкая дружына гімназістаў.

# «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА XX СТАГОДЗЬДЗЯ»

Расейскі ды савецкі імпэрыялізм нішчыў і працягвае нішчыць нашыя духоўныя повязі з традыцыйнымі беларускімі каштоўнасьцямі, праз лучнасьць зь якімі людзкая адзінка перадусім і знаходзіць сваю тоеснасьць у культурнай і гістарычнай супольнасьці. У гэткай крытычнай сытуацыі, у якой мы апынуліся на самым канчатку XX ст., для нас па-ранейшаму вельмі актуальны погляд на нашыя нацыянальныя традыцыі й тоеснасьць, як на рэзэрвуар каштоўнасьцяў, на якіх можна збудаваць этычныя й эстэтычныя нормы дэмакратычнага грамадзтва ў Беларусі. «Паняцьце «нацыя» і «дэмакратыя» ў дадзеным выпадку дакладна супадаюць,» — невыпадкова падкрэсьліваў некалі М. Багдановіч. Аднак, дзе тая крыніца, зазірнуўшы ў якую, цікаўны да нацыянальнага пытаньня беларус даведаецца пра свае нацыянальныя традыцыі й тоеснасьць сёньня, калі «савецкія беларусы» зь вялікімі цяжкасьцямі й толькі праз супраціў таталітарнаму рэжыму трансфармуюцца ў сучасную дэмакратычную нацыю? Працы, у якіх разглядаюцца гэтыя супэрважныя для нашага існаваньня катэгорыі параскіданыя па недаступных для простага чытача выданьнях. А таму вітайма выйсьце ў сьвет складзеную Юрыем Гарбінскім анталёгію «Беларуская думка XX стагодзьдзя. Філязофія, рэлігія культура». Кніга выдадзеная ў Варшаве ў 1998 годзе Інстытутам Славістыкі Польскай Акадэміі Навукаў. Яна аб'ёмістая: налічвае 740 бачынаў!

У анталёгіі сабраныя творы, у якіх распавядаецца пра тое, якой быць нацыянальнай сутнасьці беларусаў, што перашкаджае стаўленьню нашай нацыянальнай сьвядомасьці, што яна дае ў пляне духовага, культурнага й эканамічнага разьвіцьця асобы. Абсяг анталёгіі 80 з гакам гадоў, а прадстаўлена ў ёй ажно больш за шэсьць дзясяткаў аўтараў. Бальшыня тэкстаў узятая з ранейшых айчынных і эміграцкіх выданьняў, у тым ліку з тэкстаў даваеннага друку. За савецкім часам да гэтага навукова-культуралягічнага даробку (прычым да ягонай абмежаванай часткі) дапускаліся толькі адданыя рэжыму гісторыкі, якія, зразумела, не даводзілі зьместу прачытанага да чытачоў. Толькі сёньня сабраныя руплівым зьбіральнікам тэксты дазваляюць акрэсьліць накірункі інтэлектуальна-філязофскіх пошукаў вырашэньня праблемы нацыянальнай тоеснасьці беларускімі філёзафамі, навукоўцамі, палітыкамі, сьвятарамі, літаратарамі, культурнымі дзеячамі. Жыцьцё шмат каго зь іх было абарванае таталітарным савецкім рэжымам.

Дзіву даесься, наколькі актуальна гучаць сабраныя ў кнізе тэксты розных гадоў. Адкрываюць кнігу артыкулы А. Луцкевіча «Беларусы і Расея» (1918) і Я. Купалы «Вера і нацыянальнасьць» (1914). Таксама зьмешчаныя артыкулы: В. Ластоўскага «Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаваў» (1926), А. Станкевіча, А. Стэповіча «Фактары асіміляцыйнага працэсу» (1931), фрагмэнты працы А. Станкевіча «Хрысьціянства і беларускі народ» (1940), В. Іваноўскага «Спольшчаныя і змаскоўшчаныя» (1941), Ю. Хадыкі «Беларуская нацыянальная ідэя на мяжы двух стагоддзяў» (1995), упершыню надрукаваны рэфэрат У. Конана «Беларуская нацыянальная ідэя: гістарычны аспект і сучасныя праблемы» (1997), зьмешчаная сапраўдная пярліна жанру — праца І. Канчэўскага «Адвечным шляхам. Дасьледзіны беларускага сьветапогляду» (1921).

Ня менш актуальна гучаць сёньня працы аб рэлігійным становішчы Беларусі. Сярод іх варта адзначыць артыкулы: К. Сваяка «Царква ці касьцёл?» (1921), У. Талочкі «У калыскі беларускага месіянізму» (1922), А. Станкевіча «Усход ці Захад?» (1923) і «Хрысьціянства і беларускі народ» (1940), В. Гадлеўскага «Патрэба нацыянальнай ідэі» (1939), Ч. Сіповіча «Асновы беларускага патрыятызму» (1947), Л. Гарошкі «Што дало Беларусі хрысьціянства?» (1951), М. Лапіцкага «Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква» (1952), С. Каўша «Шляхам аўтакефаліі» (1974), Ю. Туронка «Канфесійная трансфармацыя на Беларусі і нацыянальная самасьвядомасьць» (1998).

Яшчэ адно назіраньне: спалучэньне маладога веку й высокага духовага й адукацыйнага ўзўроўню асобных аўтараў. Найперш трэба назваць тут сьпелыя думкі й цікавыя высновы 30-гадовага А. Луцкевіча й 25-гадовых М. Багдановіча й І. Канчэўскага ў часе стварэньня імі праграмных у нацыянальным пытаньні працаў.

Анталёгія «Беларуская думка XX стагодзьдзя» Ю. Гарбінскага можа стацца настольнай кнігай для кожнага беларуса, які хоча ўсьвядоміць сваё месца ў нашым пакручастым і зьменлівым сьвеце.

**Валянцін Грыцкевіч**

# «Пад бел-чырвона-белым (Memento patriam)»




Выйшла ў сьвет чарговая кніга выдавецтва «Рунь» «Пад бел-чырвона белым (Memento patriam)» накладам 450 асобнікаў, 224 старонкі. Аўтар гэтай аўтабіяграфічнай, аздобленай дзясяткамі фатаздымкаў і дакумантаў, кнігі — вядомы ў беларускім замежжы грамадзка-палітычны дзеяч Алесь Алехнік з Аўстраліі. Ягоны лёс і жыцьцёвыя пуцявіны падобныя да лёсаў тысячаў гэткіх самых эмігрантаў ваеннага ліхалецьця. Падчас разгулу партызанкі сям'я Алехнікаў з глухога ляснога хутару была змушаная перабрацца ў больш бясьпечнае мястэчка Лахва (Піншчына). Затым разам з адступаючым нямецкім войскам эвакуявалася ў Нямеччыну. Там падлетак Алесь нароўні з дарослымі працаваў на ваенным заводзе. Нямецкі лягер, у якім прытуліліся Алехнікі й дзе яны толькі дзякуючы шчаснаму выпадку не былі растраляныя, — апынуўся ў амэрыканскай зоне. Гэта дало магчымасьць Алесю выехаць у Аўстралію, якая зь цягам часу сталася яму другой радзімай... Але цымус кнігі ў тым, што на ейных старонках аўтар распавядае пра сваю ўнікальную паваенную міжнародную дзейнасьць. А. Алехнік ці ня першы зь беларускіх дзеячоў-эмігрантаў распачаў у 60-ых гадох нястомную й гераічную працу «ўсьведамленьня сьвету пра Беларусь», распавядаючы з высокай міжнароднай трыбуны праўду пра паняволеньне беларускага народу й ягонае змаганьне за незалежнасьць.

*Кошт кнігі разам з перасылкай — **$10**. Грошы дасылайце імянным чэкам сакратару газэты Паўлу Саўчанку (**Pavel Savcenko**).*

**АМ**

# НЕПРАЧЫТАНАЯ «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»



Кастусь Міцкевіч пачаў пісаць «Новую зямлю» ў зьняволеньні ў Менскай турме. Праца доўжылася шмат зімаў і летаў. І толькі 5 студзеня 1923 году Якуб Колас у лісьце да жонкі падзяліўся радасьцю: «...Сягоньня ж закончыў я «Новую зямлю»!»

Так у нас зьявіўся твор, які:

— заняў ганаровае месца ў шэрагу іншых шэдэўраў нацыянальнага прыгожага пісьменства («Словаў...», летапісаў, «Прускай вайны» Яна Вісьліцкага, «Песьні пра зубра» Міколы Гусоўскага, «Шляхціца Завальні» Яна Барщчэўскага, «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча);

— павінен быў уславіць аўтара на цэлы сьвет і, верагодна, прынесьці яму Нобелеўскую прэмію, а праз гэта зацікавіць сама мала эўрапэйскага чытача й самой паэмай, і нашай літаратурай, і нашым народам, які даў сьвету гэткага геніяльнага, самабытнага аўтара;

— мог бы ўзьняць дух і годнасьць нашага паняволенага народу, бо праз вывучэньне «Новай зямлі», пазнаньня ейных вартасьцяў ён стаўся б больш зьядналым зь зямлёй, больш гуманным, больш эўрапэйскім.

І запавядалася на вялікі посьпех. Першыя разьдзелы паэмы зь вялікім энтузіязмам ўспрынялі нашаніўскія адраджэнцы, якія праз узьнёслае слова «Новай зямлі» даказвалі адметнасьць, хараство, вялікія літаратурныя магчымасьці нашае мовы. Выштукаваны паэтычны лад і стыль паэмы спрыялі лёгкаму завучваньню яе напамяць...

Аднак лёс жорстка абыйшоўся й з самім Якубам Коласам, і зь ягоным геніяльным шэдэўрам. Ідэалягізаваная савецкая літаратурная крытыка ўбачыла ў паэме адно толькі сацыяльную барацьбу ў дарэвалюцыйнай вёсцы, а нават і называла яе «кулацкай паэмай». Прымітыўная трактоўка твору была такая: маўляў, абмежаваны беларускі селянін, «каб з панскіх выпутацца пут», марыць і дамагаецца свайго ўласнага кавалку зямлі, — і ня больш таго!

Зь цягам часу аднак станавілася ўсё больш відавочным, што «Новая зямля» ня месьціцца ў пракруставым ложку гэтай вульгарна-сацыялягічнай трактоўкі. Хоць бы й таму, што галоўны пэрсанаж паэмы, Міхал, фактычна ня быў селянінам: «Хадзіў на сплаў ён, на віціны, Разоў са два хадзіў у Прусы... Быў пры падлоўчым на каморы...» А пасьля стаў стражнікам, палясоўшчыкам. Ён — надсацыяльны. І ягоная сям'я — па-за вёскай, па-за соцыўмам (у прамым і пераносным сэнсе!): «І сеў Міхал у страшнай дзічы, Дзе лес адзін, хмызьняк ды поле, Ды ветру посьвісты на волі...» Міхалава сям'я апынаецца нібыта ў Космасе й такім чынам становіцца мікракопіяй Божага макракосмасу — Сусьвету. А таму й вырашэньне «зямельнай» праблемы ў паэме набывае таксама касьмічнае значэньне, як, зрэшты, і вырашэньне ўсіх іншых праблемаў. Прыкладам этычнай: любоў і згода ў сям'і, якая жыве ў чужой хаце й працуе на чужым полі, можа быць узорам у наш неспакойны час, калі шмат хто зь беларускіх грамадзянаў апынуўся ў Міхалавай сытуацыі — без уласнага жытла й безь зямлі.

Выглядае так, што «Новаю зямлю» праз узьнятыя ў ёй агульначалавечыя праблемы нельга акрэсьліць як толькі «энцыкляпэдыя сялянскага жыцьця». Гэтае, на першы погляд правідловае, акрэсьленьне не раўназначнае філязофскім, літаратурным і гуманістычным вартасьцям паэмы й пераўтварае геніяльны эпічны твор сусьветнай літаратуры ў элементарны збор паэтычных апавяданьняў пра побыт сялянскай сям'і. Гэтак за дрэвамі ня бачаць лесу: за грунтоўнымі і ўзьнёслымі этнаграфічна-пабытовымі апісаньнямі шматлікіх звычаяў, абрадаў, будняў і сьвятаў Міхалавай сям'і сацрэалістычная крытыка прагледзела той галоўны аспэкт, які робіць паэму шэдэўрам у кантэксьце эўрапэйскай літаратуры.

Менавіта такім шэдэўрам прызнае Коласаў твор ангельская паэтка, публіцыст і літаратуразнаўца Вера Рыч. «Калі б спатрэбілася, — разважае яна, — пакідаючы Зямлю, узяць з сабою некалькі кніг, дык у маёй бібліятэчцы была б і «Новая зямля» Якуба Коласа.» Вера Рыч ставіць паэму поруч з творамі Вергілія ды Шэкспіра.

Вядома, патрэбны талент, каб стварыць драму ці трагедыю, у якіх дзею рушаць жарсьці, адвечныя супярэчнасьці дабра й зла, шляхетнага сэрца й подлай душы. Ды толькі сапраўдны геній можа стварыць драму на шляхетных пачуцьцях чалавека, якому хоць і ўласьцівыя чалавечыя заганы, але яны — несувымерныя зь ягонымі цнотамі. Вялікім талентам трэба валодаць, каб натуральна, як дыханьне, складваўся верш, выштукаваны да геніяльнай прастаты. У рэчышчы гэткага вольнага вершаскладу паўстае ў «Новай зямлі» надзвычай актуальная беларуская праблема: стаўленьне чалавека да зямлі й ейная значнасьць у фармаваньні асобы. І далей гэтая праблема Коласавым талентам пераўтвараецца ў важную агульначалавечую, нават касьмічную, праблему: стаўленьня чалавека да Зямлі — Божага дару.

Для герояў паэмы нібыта ўсё прадвызначана: прыдбаць свой кут. Безь яго Міхал ня тое, што не гаспадар, а чалавек без душы. Зямля тут самая душа, а чалавек ейнае цела. Такі сьветапогляд вядомы яшчэ за часамі старажытнай Грэцыі. У VII ст. д. н. э. паэт-эпік Гесіёд шчыраваньнем на бацькоўскім палетку стараўся пераканаць свайго брата, што толькі сумленнай працай на зямлі чалавек здольны здабыць для сябе й свае сям'і павагу ад людзей і ласку багоў. Гэтую ідэю Гесіёд уклаў у свой знакаміты дыдактычны эпас «Працы й дні». І вялікі рымскі паэт Вяргілі у І ст. да н. э., насьледуючы Гесіёду ў сваіх «Георгіках», меў наўмэце абудзіць любоў да зямлі ды ўсьвядоміць людзям духовыя вартасьці земляробства. У гэтай Вяргілевай паэме селянін у змаганьні з варожымі моцамі прыроды разьвівае ўласныя сілы. Вергілі, падобна да Гесіёда, прагне пераканаць сваіх суграмадзянаў, што кожны чалавек мусіць працаваць, мусіць спасьцігаць правілы Божага ладу ды ўвасабляць іх у сваім жыцьці. Вельмі важнай падаецца Вяргілева думка, што толькі вясковае жыцьцё — жыцьцё на лоне прыроды — мае панадчасавы характар і захоўвае здаровыя вартасьці «залатога веку».

*Працяг у наступным нумары*

**Зьдзіслаў Сіцька**

 





# ВУЧАНЬ, ВУЧЫЦЕЛЬ, ДЫРЭКТАР



*Адным з тых, хто найдаўжэй працаваў у нашай славутай навучальнай установе (1931-1939) быў вядомы ў сьвеце вучоны, наш суайчыньнік, **Барыс Кіт**. Ён быў самы малады настаўнік і самы малады дырэктар ВБГ. Маючы за плячыма толькі тры няпоўныя курсы Віленскага ўнівэрсытэту, юнак пайшоў працаваць настаўнікам у Беларускую гімназію. Гэта быў рызыкоўны й цяжкі крок: тагачасныя санацыйныя польскія ўлады вытраўлялі паўсюдна беларускі дух, палявалі за нацыянальна-сьведамай беларускай інтэлігенцыяй. Аднак тут трэба мець на ўвазе, што ўжо ў свае студэнцкія гады Барыс Кіт быў духова сьпелы чалавек са сфармаваным нацыянальным сьветапоглядам і глыбокімі ведамі, якія зьдзіўлялі нават ягоных унівэрсытэцкіх выкладчыкаў...*

## 1. Пэрыяд вучнёўства (1928)

Мае суадносіны зь Віленскай Беларускай Гімназіяй (ВБГ) пачаліся вясной 1928 году, калі я, вучань апошняе клясы Навагрудзкай Беларускай Гімназіі (НБГ) прыехаў у Вільню, каб складаць іспыты пры ВБГ на атрыманьне атэстата сьпеласьці, што давала мне права паступаць у Віленскі Ўнівэрсытэт. Гэта быў час, калі польскія ўлады пастанавілі, нарэшце, даць дзяржаўныя правы дзьвюм апошнім беларускім гімназіям: ВБГ і НБГ, што дазваляла абсальвэнтам гэтых гімназіяў свабоднае паступленьне (безь іспытаў!) у кожную вышэйшую школу Польшчы. Праўда, пры паступленьні часам вымагаўся дадатковы конкурсны іспыт. А да таго часу беларускія гімназіі былі прыватныя й ня мелі дзяржаўных правоў, г. зн. іхныя абсальвэнты ня мелі права паступаць у вышэйшыя польскія ўстановы, што змушала іх выяжджаць у іншыя краіны, найперш у Чэхію й Бэльгію, дзе іх прымалі на ўнівэрсытэты безь перашкодаў. Гэткім шляхам атрымалі вышэйшую адукацыю такія, напрыклад, нашыя выдатныя дзеячы, як Аляксандар і Пятро Орса, Мікалай Гарошка, Вінцук Жук-Грышкевіч, Мікола Ільяшэвіч ды іншыя.

Тут трэба абавязкова ўзгадаць, што ў атрыманьні дзяржаўных правоў для ВБГ і НБГ асабліва шчыраваў навагрудзкі ваявода Зыгмунт Бэчковіч, адзін з найбольш лібэральных тагачасных польскіх адміністратараў. Ён неяк зацікавіўся працай НБГ, пачаў інспэктаваць яе, прыходзячы на лекцыі, а пазьней прызначыў стыпэндыі найбольш здольным вучням. (Падчас адной візыты сп. Бэчковіча аўтар гэтых успамінаў быў выкліканы да дошкі, у клясе матэматыкі, каб зрабіць добрае ўражаньне аб адукацыйным узроўні гімназіі. Як выдатнага вучня выклікалі мяне да дошкі, калі гімназію візытаваў Вацлаў Енджэевіч, міністар асьветы, якога я спаткаў пасьля вайны на эміграцыі ў Нью-Ёрку). Каб правесьці першыя, спробныя матуральныя іспыты, было пастаноўлена, што вучні-кандыдаты НБГ разам з вучнямі-кандыдатамі ВБГ будуць здаваць іспыты ў Базылянскіх мурох, дзе месьцілася тады нашая слынная ўстанова.

Іспыты здаваліся экстэрнам з усіх прадметаў, якія выкладаліся ў нашых 8-клясных гімназіях, і экзаменатары былі не свае настаўнікі, а пакліканыя з польскіх гімназіяў. Толькі некалькі зь іх, Антон Трэпка (фізыка), кс. Адам Станкевіч (Закон Божы для каталікоў) ды а. І. Дзякоўскі (Закон Божы для праваслаўных), былі ўзятыя з БВГ. Старшынёю экзаменацыйнай камісіі быў славуты прафэсар Віленскага Ўнівэрсытэту М. Масоніус. Каб мець найлепшыя вынікі й паказаць, што нашыя гімназіі стаяць на гэткім самым узроўні, як і польскія, і заслугоўваюць на дзяржаўныя правы, — дырэктар НБГ, Ян Цеханоўскі, выбраў з 30-ці вучняў восьмай клясы толькі шасьцёх самых выдатных: Ю. Дзяковіча, В. Чатырку, Я. Гоцку, А. Вярбіцкага, М. Даманскага ды Б. Кіта, аўтара гэтых успамінаў. Тое самае было зробленае і ў ВБГ. Адтуль прыйшлі: П. Шчасны, І. Будзька, Хворast (пазьней кіраўнік танцаў у хоры Р. Шырмы) і яшчэ трох, прозьвішчы якіх ня памятаю.

Посьпех на іспытах быў зусім задавальняючы для вышэйшых школьных уладаў, і нашыя гімназіі былі пераведзеныя на дзяржаўнае становішча. Праўда, пры гэтым яны згубілі частку свае незалежнасьці й сталіся аддзеламі польскіх гімназіяў: НБГ пачала называцца Беларуская філія польскай гімназіі імя А. Міцкевіча (БФПГАМ), а ВБГ — Беларуская філія польскай гімназіі імя Ю. Славацкага (БФПГЮС). Нашыя дырэктары таксама пачалі называцца «кіраўнікамі філіяў» і цалкам падпарадкоўваліся адлаведным дырэктарам польскіх гімназіяў. Аднак навучаньне ў нашых абедзьвюх гімназіях надалей ішло ў беларускай мове й так было ажно да ліквідацыі БФПГАМ у 1934 годзе й да пераводу БФПГЮС на польскую мову навучаньня ў 1939 годзе.

## 2. Пэрыяд настаўніцтва (1931-1939)

Атрымаўшы ў Базылянскіх мурох дзяржаўны атэстат сьпеласьці я без далейшых іспытаў стаўся паўнапраўным студэнтам Віленскага ўнівэрсытэту імя С. Баторыя (прыродазнаўча-матэматычны факультэт, аддзел матэматыкі). Той жа, хто ня меў атэстата сьпеласьці, мог быць залічаны толькі вольным слухачом і павінен быў раней ці пазьней атрымаць яго.

Ва ўнівэрсытэце я вучыўся чатыры гады, аднак ужо на трэцім курсе быў пакліканы на становішча вучыцеля матэматыкі ў ВБГ. А пакліканы быў таму, што выкладчык матэматыкі К. Ра...цэвіч быў раптоўна звольнены з працы праз Віленскую Школьную Кураторыю з прычыны недастатковай пэдагагічнай кваліфікацыі. Трэба сказаць, што амаль усе настаўнікі ВБГ знаходзіліся ў гэткай самай сытуацыі, бо мелі яшчэ старыя царскія дакуманты, якія неахвотна прызнаваліся тагачаснымі польскімі ўладамі. Мне, студэнту польскага ўнівэрсытэту, нічога не пагражала. І гэтак, ужо ў 1931 годзе, пачаў я сваю настаўніцкую кар'еру ў ВБГ.

Паводле плянаў польскіх уладаў усіх вучняў зачыненай у той час НБГ меліся перавесьці ў Польскую гімназію імя А. Міцкевіча, філіяй каторай, як я ўжо згадваў, зьяўлялася НБГ. Увесь беларускі актыў з Навагрудку й нашай Віленскай Гімназіі добра разумелі пагрозу апалячаньня беларускіх школьнікаў і пачалі маракаваць, што рабіць. Ведаючы мае цесныя кантакты з Навагрудчынай, дырэктар ВБГ Радаслаў Астроўскі адправіў мяне ў Наваградак, каб зрабіць там усё магчымае дзеля ўратаваньня вучняў ад немінучай паланізацыі. (Апроч таго, што я быў абсальвэнтам НБГ, я ў 1932 годзе прыяжджаў зь Вільні прымаць выпускныя экзамены замест раптоўна памерлага вучыцеля матэматыкі Яўгена Мілава, а таксама ўлетку, праводзячы канікулы ў родных Агароднікаx, вэрбаваў новых вучняў у ВБГ). Прыбыўшы ў Наваградак і параіўшыся зь цяпер ужо былым дырэктарам НБГ Янам Цеханоўскім і з сэнатарам Васілём Рагулем, я пастанавіў дзейнічаць.

У дзень рэгістрацыі вучняў у польскую гімназію я стаў каля гімназіяльных варотаў, затрымліваў вучняў, намаўляючы іх ехаць вучыцца да нас, у Вільню. І гэтак нешта каля 90% усіх вучняў НБГ далі згоду на пераезд у Вільню. Я спачатку адправіў туды два паўнюткія аўтобусы, а сам, з рэштай, паехаў вузкакалейкай да Навальні, а там пераселі мы ў цягнік на Вільню. Дырэктар Р. Астроўскі уладзіў усё, каб вучні былі добра спатканыя й размешчаныя ў інтэрнаце. Агульная радасьць трохі зацьміла сум, прычынены зачыненьнем роднай Навагрудзкай Гімназіі. Па дарозе ў Вільню вучні ехалі, гучна сьпяваючы патрыятычныя беларускія песьні. Сам я быў вельмі задаволены, што зрабіў нешта канкрэтнае для сваёй Бацькаўшчыны — Навагрудчаны. З усіх прывезеных мною вучняў амаль усе ўсе здолелі закончыць гімназію, шмат хто зь іх пазьней адгуляў вялікую ролю ў беларускім адраджэньні.

Аднак неўзабаве маё задавальненьне зьмянілася вялікім клопатам. Ходзіць пра тое, што ўжо назаўтра пасьля нашае навагрудзкай адысеі дырэктар Польскай гімназіі імя А. Міцкевіча даслаў у Віленскую Школьную Кураторыю (яна абдымала й Навагрудчыну) вялікі данос, абвінавачваючы мяне ў тым, што я, маўляў, «падрываю польскую дзяржаўнасьць» і г. д. Адначасна копія гэтага даносу лягла на стол сп. Жэрабяцкаму, дырактару Польскай гімназіі імя Ю. Славацкага... Цёмныя хмары згусьціліся нада мной. Насамперш, дык сам віленскі школьны куратар сп. Шэлянгоўскі выклікаў нашага кіраўніка Р. Астроўскага, каб той патлумачыў сутнасьць справы. Зразумела, сп. Астроўскі бараніў мяне, як толькі мог. На шчасьце, ён меў прыяцельскія адносіны з сп. Шэлянгоўскім, які належыў яшчэ да старой клясы польскіх лібэралаў і сымпатызаваў беларусам. (Пазьней, у часе разгулу польскага нацыяналізму, на ягонае месца прыехаў польскі шавініст сп. Гадэцкі). Выслухаўшы тлумачэньні справы ад сп. Р. Астроўскага, Шэлянгоўскі парваў данос, кінуў яго ў сьметнік і сказаў: «На мейсцу пана Кіта я зробілбым то сама. Пан Кіт заховал сэн так, як належало правдзівэму бялорускему патрыёце!»

Гэтым аднак справа мая ня скончылася. Дырэктар гімназіі сп. Жэрэбяцкі, каб адпомсьціць мне, пачаў візытаваць усе мае лекцыі й знаходзіць, што я раблю ўсе вельмі дрэнна й што, наогул, павінен быць звольнены з працы настаўніка. У тым часе на мейсца сп. Р. Астроўскага быў ужо назначаны сп. М. Анцукевіч, які атрымаў ад сп. Жэрабяцкага загад шукаць новага настаўніка матэматыкі. І толькі шчасьлівае здарэньне ўратавала мяне ад звальненьня: у Віленскую Школьную Кураторыю прыехаў новы візытатар, сп. Юліюш Баліцкі, каторы нічога ня ведаў, якая палітыка вялася ў адносінах да ВБГ і ў прыватнасьці да мяне. У першы шэраг інспэктаваньня віленскіх гімназіяў патрапіла й нашая ўстанова. Два тыдні візытаваў ён нас і на заканчэньне, як тое было прынятае, склікаў настаўніцкі сход (пэдагагічную раду), каб абвесьціць вынікі сваёй інспэкцыі. Спаміж усімі іншымі пэдагогамі ён назваў найлепшым вучыцелем... Барыса Кіта! Пасьля такой справаздачы Баліцкага, працэс майго звальненьня запаволіўся, да таго ж якраз тады я за сваю добрую працу атрымаў г. зв.»дэкрэт усталеня». (Што датычыць майго недабразычліўца сп. Жэрэбецкага, дык пасьля прыходу Чырвонай Арміі ў Вільню, 17 верасьня 1939 году, ён быў адразу арыштаваны й згінуў недзе ў савецкіх турмах).

У 1932 годзе ў Польшчы распачалася школьная рэформа. Старая 8-клясная гімназія была падзеленая на дзьве часткі: 4-клясную гімназію й 2-клясны ліцэй, які меў або гуманітарную (гісторыя й мовы), або матэматычную (матэматыка, фізыка, хэмія), або клясычную (лацінская й грэцкая мовы) спэцыялізацыю. У выніку гэтае рэформы мы згубілі першыя й апошнія дзьве клясы: ліцэя мець нам не дазволілі й прыблізна ў гэты час пастанавілі наогул перавесьці нашую 4-гадовую гімназію на польскую мову. Асабліва гэтага дамагаўся віленскі ваявода Бацянскі, які казаў: «Пшэз дзесёнць лят не бэндзе у мне тутай жаднэго бялорусіна!» Добра памятаю, як аднойчы ваявода Бацянскі зьведаў нашую гімназію й загадаў на месца партрэтаў Купалы й Коласа павесіць партрэты Міцкевіча й Славацкага. Яму не спадабалася, што ўсё ў гімназіі было напісана па-беларуску. Зайшоўшы на



*Барыс Кіта (у крэсьле, другі зьлева) сярод настаўнікаў і вучняў ВБГ.*

 

 




ZAŚWIADCZENIE.

Niniejszem zaświadcza się iż p.Borys Kita pracował w gimnazjum tut. w roku 1932-33 w charakterze nauczyciela etatowego udzielając 18 godz. tyg.matematyki i 3 godz.fizyki oraz w roku szk.b.1933-34 udziela 9 godz. tyg.matematyki i II godz.fizyki.

Jak widać z akt b.Prywatnego Gimnazjum Białoruskiego K-tu Rodzicielskiego p.Borys Kita w roku 1931-32 udzielał jako kontraktowy nauczyciel 9 godz.tyg. matematyki i 3 godz.fizyki.

Zaznaczam, że praca p.Borysa Kity jest... dobra ...

Wilno dnia 27 marca 1934 r.
Dyrektor
Gimn. państw. im. Juljusza Słowackiego w Wilnie

Kierownik

*Пасьведка аб працы ў ВБГ, выдадзеная ў сувязі зь іспытам на атрыманьне дыплёму настаўніка сярэдніх школаў у Польшчы.*

інтэрнатаўскую кухню і ўбачыўшы, што й там гаспадарчыя кнігі вядуцца па-беларуску, ён хапіў адну зь іх, бразнуў аб падлогу й закрычэў: «Досьць мне юж тэго шовінізму бялорускего!»

Шавініст Бацянскі, як было сказана, пастанавіў аканчальна зьліквідаваць апошнюю беларускую сярэднюю ўстанову. Дзеля гэтага ён пачаў дамагацца, каб усе прадметы ў ёй выкладаліся па-польску з тым, каб пазьней зьліць яе з галоўнай польскай гімназіяй. Ён нават адкрыў пры ваяводзкай адміністрацыі адумысловы «беларускі рэфэрат», на чале якога паставіў беларускага рэнэгата па прозьвішчу Сарока. (Хадзіла чутка, што ён быў растраляны падчас нямецкай акупацыі). Заданьнем Сарокі было даносіць Бацянскаму, як захоўваюцца беларусы. Сарока павінен быў кожную раніцу дакладаваць ваяводзе пра беларускае жыцьцё ў Вільні, асабліва, пра нашую школу. Каб атрымаць як мага больш інфармацыі, той Сарока прабаваў завэрбаваць нашых вучняў, каб яны даносілі на сваіх настаўнікаў, перад усім на найбольш патрыятычных, такіх як Хведар Ільяшэвіч, Сымон Кароль, Алёна Сакалова-Лекант, Барыс Кіт ды інш. Бацянскі цікавіўся нават тым, пра што мы размаўляем на нашых лекцыях.

На запытаньне Бацянскага, якім чынам перавесьці нашую гімназію на польскую мову, вышэйшыя школьныя ўлады параілі яму, што найлепш, калі гэта будзе зроблена са згоды, а нават і з патрабаваньнямі бацькоў нашых гадаванцаў. Бацянскі адразу ўзяўся за справу й даручыў Сароку сабраць подпісы бацькоў. І Сарока, на ваяводзкай машыне, калясіў па ўсёй Заходняй Беларусі, асабліва па Навагрудчыне, адкуль найбольш паходзілі нашыя вучні, – каб сабраць неабходную колькасьць подпісаў. Пагражаючы паліцыйнымі ды іншымі рэпрэсыўнымі мерамі, ён наладзіў справу, як таго хацеў Бацянскі: сабраныя подпісы былі высланыя ў Міністэрства Асьветы ў Варшаву й адтуль прыйшоў загад аб замене беларускай мовы выкладаньня на польскую. Іронія была ў тым, што гэты загад дайшоў да нас дакладна 12 верасьня 1939 году (!), у час, калі Польшчы фактычна ўжо не йснавала... Праз пяць дзён у Вільню ўвайшла Чырвоная Армія.

Як было апісана вышэй, польскі шавіністычны апрэсыўны ціск дзеля палянізацыі беларусаў рабіўся нясьцерпным. Беларускі актыў і пэдагагічная рада пастанавілі паехаць з скаргаю ў Варшаву да вышэйшых уладаў. Для гэтага трэба было выслаць належную дэлегацыю, у якую ўвайшлі сам дырэктар ВБГ Радаслаў Астроўскі, віленскі адвакат і былы старшыня Беларускага Студэнцкага Саюзу Канстанцін Глінскі ды я. У Варшаву я выехаў за некалькі дзён раней, каб падрыхтаваць аўдыенцыі ў вышэйшых уладаў для ўсёй дэлегацыі. На мяне ўскладаліся спадзяваньні, бо я ў прышлыя часы меў добрыя адносіны з навагрудзкім ваяводам Зыгмунтам Бэчковічам, які падчас нашай дэлегацыі займаў становішча сэнатара сойму ў Варшаве. І, сапраўды, я меў доўгую гутарку з сп. З. Бэчковічам у будынку сойму й ён абяцаў зрабіць усё магчымае. Аднак дадаў, што сучасная польская палітыка ў дачыненьні да нацыянальных меншасьцяў шмат пагоршалася ў параўнаньні з той, якая йснавала напачатку польскае незалежнасьці, і што ён, як пераканаы лібэрал, цяпер згубіў усялякую вагу ў дзяржаўным апараце й не зможа шмат дапамагчы нам.

У выніку ўсіх нашых захадаў у Варшаве мы дамагліся аўдыенцыі толькі ў некалькіх начальнікаў аддзелаў у Міністэрстве Асьветы, каторыя нічога нам не паабяцалі, а толькі пашкодзілі тым, што адразу паведамілі пра нашыя самачынныя візіты ваяводу Бацянскага ды куратара Садэцкага. Сумныя вынікі нашай дэлегацыі адразу пагоршылі сытуацыю. Радаслаў Астроўскі быў звольнены са становішча кіраўніка й высланы ў Лодзь, дзе быў вучыцелем матэматыкі ў адной з польскіх гімназіяў аж да восені 1939 году, калі ў Лодзь прыйшла нямецкая армія. Рэшта дэлегацыі, К. Глінскі й я, пачалі жорстка перасьледавацца санацыйнымі ўладамі. Напрыклад, я працаваў у страху, што мяне ў кожную хвіліну звольняць: новы кіраўнік гімназіі сп. М. Анцукевіч атрымаў загад шукаць кандыдат на маё мейсца, апроч таго мне быў забаронены выезд за мяжу. (Сп. Анцукевіч таксама праз пару гадоў быў звольнены з пасады кіраўніка гімназіі й назначаны вучыцелем лацінскай мовы ў Ломжы. На ягонае мейсца быў прысланы сп. В. Кавалевіч, які й быў нашым дырэктарам ажно да восені 1939 году).

### 3. Пэрыяд дырэктарства

Як я ўжо згадваў, падчас мае настаўніцкае працы ў ВБГ (1931-1939) на становішчы дырэктара зьмяніліся ажно чатыры асобы: А. Міхалевіч, Р. Астроўскі, М. Анцукевіч і В. Кавалевіч. Ад прыходу Чырвонай Арміі й да передачы Вільні Літве дырэктарам гімназіі стаў я. З згаданых мною дырэктараў найбольш выдатнай асобай, як адміністратар, пэдагог, арганізатар і грамадзкі дзеяч, быў, безумоўна, Радаслаў Астроўскі. Таленавіты прамоўца й адважны патрыёта, ён захопліваў нас, малодшых, сваім імпэтам, сваёй верай у беларускую справу. Ён пакінуў прыкметны след ва ўзгадаваньні беларускай моладзі, і я ў сваёй пэдагагічнай дзейнасьці кіраваўся на ягоныя мэтады, стыль і дух працы.

Апошні, «дырэктарскі», пэрыяд маёй працы ў ВБГ быў кароткі. Пасьля заняцьця Вільні Чырвонай Арміяй дырэктар В. Кавалевіч, каторы быў ня вельмі паважаны сярод вучняў праз свой недастатковы беларускі патрыятызм, нэўтралізм ды згодніцкую палітыку да польскіх уладаў, быў зьняты са свайго становішча. На просьбу вучняў і бацькоў абавязкі дырэктара ўзяў на сябе аўтар гэтых успамінаў. Без асаблівых клопатаў атрымаў я пацьверджаньне на дырэктарства ад новых школьных уладаў, дзе ўжо часовым кіраўніком аддзелу сярэдніх школаў быў вядомы беларускі патрыёт, др. Францішак Грышкевіч, які падчас нямецкай акупацыі сам быў дырэктарам ВБГ.

Энтузіязм быў вялікі й наплыў новых вучняў неабмяжаваны. Неабходна было адкрываць паралельныя клясы й новыя інтэрнаты: іхняя колькасьць дасягла 10-ці! На чале кіраўніцтва інтэрнатаў былі пастаўлены беларус Уладзімір Панко, з Навагрудчыны, адкуль, як і раней, папрыяжджала бальшыня вучняў. На жаль, новая ВБГ трывала нядоўга. Прайшла чутка, што Віленскі край разам зь Вільняю адыходзіць да Літвы й такім чынам ВБГ апынецца за межамі Беларусі. Гэта вельмі занепакоіла настаўнікаў і вучняў, асабліва з Навагрудчыны. І тады мы прыйшлі да высновы, што трэба падзяліць ВБГ на дзьве часткі, віленскую й наваградзкую. Значна меншая частка вучняў віленскага паходжаньня засталася на мейсцы, а большая пераехала ў Навагрудак, дзе я заснаваў новую (ці то адрадзіў старую) НБГ. Дырэктарам жа ВБГ стаў пасьля мяне кс. А. Станкевіч.

На гэтым хачу закончыць сьціплыя ўспаміны пра мае суадносіны з слаўтай Віленскай Беларускай Гімназіяй. Я заўсёды ганарыўся й ганаруся, што быў часткай гэтай паводле акрэсьленьня Васіля Быкава «Калысцы Беларускага Адраджэньня».

# ЖМЕНЬКА ГІМНАЗІЯЛЬНЫХ УСПАМІНАЎ

У Віленскай Беларускай Гімназіі я вучыўся з 1931 па 1937 год. Гэта незабыўны час. У маю бытнасьць дырэктарам быў Р. Астроўскі, а затым М. Анцукевіч. Настаўнічалі А. Сокалава-Лекант, М. Ільяшэвіч, С. Кароль, Р. Шырма, кс. А. Станкевіч, Б. Кіта, П. Шчасны, Я. Шнаркевіч. У гімназіі быў духавы аркестар, хор, драмгурток, выходзіла сьценгазэта. Часта праводзіліся вечарыны з танцамі. У спартовай залі вісела вялікая «Пагоня». Тут адбываліся разнастайныя імпрэзы, на якія прыходзіла шмат нашых знакамітых дзеячоў. Напрыклад, драматург Ф. Аляхновіч, малады М. Танк. Хадзілі мы ва ўнівэрсытэт, дзе выступаў М. Машара, а аднаго разу там сьпяваў песьні сусьветна вядомы М. Забэйда-Суміцкі. Памятаю таксама выступленьне сп. Бусла, удзельніка Слуцкага Збройнага Чыну.

Перад выездам на канікулы мы звычайна хадзілі ў друкарню на Завальную вуліцу, дзе нам давалі стосы газэтаў, кнігаў і беларускіх календароў. Усе гэта мы развозілі па заходнебеларускіх вёсках.

Склад вучняў у асноўным быў зь сялянаў, ну, і дзеці беларускіх дзеячоў. Жылі мы ў інтэрнатах: для хлапцоў пры гімназіі, для дзяўчатаў у горадзе. Выхавацелямі ў нас былі М. Мінкевіч (зяць Астроўскага) і М. Шчасны. Пасьля вучнёўскага страйку іх памянялі на палякаў. Хто не аплочваў харчы, таму не давалі есьці, — вось мы й застрайкавалі. У інтэрнат прыехаў сам віленскі ваявода ген. Бацянскі. Мы яму сказалі, што за нас польскай дзяржаве плоцяць падаткі 3,5 млн. беларусаў... За гэтае выступленьне ніхто нас ня біў і не судзіў — ня тое, што цяпер!

Кожную нядзелю праваслаўных вадзілі маліцца ў самую маленькую Пятніцкую царкву, а каталікаў — у касьцёл Сьв. Мікалая.

Пад уплывам КПЗБ у гімназіі была нелегальная камсамольская ячэйка. Была й скаўцкая дружына. За часам мае вучобы нікога з вучняў у турму не пасадзілі.

Мы вельмі любілі хадзіць на Замкавую гару й на Трохкрыжскую. Часта наведвалі Беларускі музэй імя І. Луцкевіча, дзе дырэктарам тады быў А. Луцкевіч.

Становішча гімназіі было цяжкім: з аднаго боку фінансавыя цяжкасьці, з другога — уціск польскіх уладаў. Палякі лічылі нашую гімназію расаднікам камунізму, а камуністы — расаднікам нацыяналізму.

Некалькі словаў пра гімназістаў: Каліцкі стаў урачом, у часе акупацыі працаваў у Глыбокім; Уладзімір Стома — урачом у Лужках; Вячаслаў Дук быў мэрам Дзісны; Манцэвіч была ў камуністычным падпольлі; Лакотка Ф. — у падпольлі. Напачатку 90-ых гадоў мне пашчасьціла зноў убачыць Лявона Луцкевіча, Леваніда Караля, Л. Кульчыцкага, Лену Шырму, Івана Рогача, — гэта ўсё мае аднаклясьнікі. Зь Іванам Рогачам мы дагэтуль лістуемся.

**Пятро Лаўрычонак**


*Вучнёўская каапэратыўная крама ВБГ.*


*Дзяўчаты-гімназісткі й кавалеры-«кашаеды» на шпацыры.*

 



*Рыгор Сусоеў (другі справа) з паплечнікамі з СБМ. Вільня. 1943 г.*

Росквіт творчай актыўнасьці **Рыгора Сусоева** (1926-1987) прыпаў на цяжкія, неспрыяльныя для паэзіі ваенныя гады, калі юнаку не было яшчэ й дваццаці. Ён тады вучыўся ў Віленскай Беларускай Гімназіі. Потым было змаганьне за незалежнасьць Бацькаўшчыны ў шэрагах такіх самых патрыётаў з Саюза Беларускай Моладзі, эміграцыя, вяртаньне на Радзіму, арышт і высылка на катаржную працу на капальні Данбасу. Болей Рыгор Сусоеў не пісаў. Застаўся па ім пажоўклы вучнёўскі ў кратку сшытак з паўсотняй розных па якасьці й зьместу вершаваных твораў. Асобныя радкі й лепшыя з таго сшытка вершы гавораць пра тое, што беларуская паэзія страціла яшчэ аднаго таленавітага паэта...

А. М.

# Возера

**Пад месяцам срэбным, пад навісьсю дрэваў**
**Нахмураных хвояў, дрыжлівых асінаў,**
**З глыбіні вазёрнай даносяцца сьпевы**
**Люстраных русалак урочнай часінай:**

**«Стаміўся змагацца? Сыйдзі ў нетры хваляў,**
**Убачыш падводныя дзіўныя дзівы**
**Зь зялёных каменьняў, празрыстых крышталяў,**
**І будзеш жыць вечна, і станеш шчасьлівы!»**

**Так пекныя здані чарговай ахвяры**
**Шапталі... Чарот задуменна хістаўся.**
**А месяц халодны у вольным абшары**
**Іх шэпт слухаў страсны й нягучна сьмяяўся.**

*Здымак Дзяніса Раманюка*

Лілея Сазанавец

## Запытальныя гномы

*

Ці ня грэх
плакаць над чарговай «Марыяй»
калі ў суседкі
Чарнобыль забраў дзіця?

*

Той хто ўчора
павучаў з трыбуны
ці ня занадта шчыра
укленчыў перад алтаром?

*У выдавецтве «Рунь» рыхтуецца да друку кніга паэзіі, прозы, успамінаў **Сымона Шаўцова** (нар. 1911 г.), беларуса з далёкай Аўстраліі. У пачатку 30-ых Сымон працаваў і вучыўся ў Менску, меў відавочныя здольнасьці празаіка й публіцыста, друкаваўся ў тагачасным беларускім друку, у тым ліку ў літаратурным альманасе «Ударнік». Кантактаваў з многімі, слыннымі цяпер, беларускімі паэтамі й празаікамі... Аднавіў свае літаратурныя заняткі пасьля шасьцідзесяцігадовага перапынку, на схіле дзён. І, дзякуй Богу, бо беларуская літаратура магла страціць цікавага й арыгінальнага пісьменьніка.*

## Пацыфік

I.
Душой маладзею ля цябе, Пацыфік.
Целам мацнею ў тваіх чыстых водах
пасьля працы вечарам ціхім,
а нават і ў непагоду.
Мне прыемна з табой размаўляць,
слухаць песьні твае і самому сьпяваць.
Ты мацуеш мой дух і здымаеш стому,
дабрынёю сваёй сярод люду вядомы.
Ты пяшчотай сваёй нас усіх абдымаеш,
і на свой залацісты пясок запрашаеш.
вабяць вока празрыстыя хвалі,
за якія цябе ўсе хваляць.
Караблі стаяць на прычале,
маракі гуляюць на волі,
табе кажуць: «Вялікі дзякуй
за спагаду тваю, дабрадзейнасьць,
за вясёлы характар, надзейнасьць!»
Са сваіх невычэрпных спратаў
ты даеш пачастунак багаты:
крабы, адменныя рыбы, кальмары, крэвэткі
ды іншыя дэлекатэсы-наедкі,
якія на плечох сваіх караблі
развозяць па ўсёй Зямлі.
Сапраўды, ты – Вялікі і Ціхі,
Бруд змываеш зь цела,
з душы – гора й ліха,
Да цябе я прыходжу з маёю журбой,
хачу жыць у суседзтве з табой!

II.
Ціхутка плюскоча Пацыфік,
б'е хвалямі ў бераг паціху,
прыплыў і адплыў паволі
вадкім целам з тонамі солі.
Да гаючага цела тулюся
і я, імігрант зь Беларусі,
краіны гаротна-жывучай,
цярплівай і неўміручай.

III.
Ты шэпчаш навіны, сьпяваеш мне песьні,
заўсёды прыгожы, чароўны і сьвежы,
улетку і ўзімку, як шум Белавежы,
як голас Радзімы, як гоман прадвесьні.
З табой мне прыемна сустрэцца, гутарыць,
паслухаць твой пошум пра радасьць, пра гора.
Штодзённа, штоночна ў адвечнай абнове
сьпяваеш мне песьні таемнаю мовай:
што выпала ўсім нам нялёгкая доля,
што край наш дагэтуль пазбаўлены волі,
што добрыя людзі там моцна гаруюць,
а выродкі й злыдні над імі царуюць...
Таму да цябе я іду на спатканьне
і слухаю гул твой да самага раньня.

Юрась Нераток

## Трэці варыянт

Нас захліснулі часу злога хвалі —
Спрачацца можа хіба што вар'ят:
Два варыянты нам прапанавалі...
Але магчымы трэці варыянт!

Зь іх першы: «перастройка» зь дзікім рынкам,
Дзе ўсё, што нам належыць, — «сэкандханд»,
Дзе збыт ёсьць недакуркам і скарынкам...
Задавальняе гэты варыянт?

Другі: застой з уладаю чырвоных,
Дзе дэфіцыт, партком і правіянт,
Здабыты па чарзе ці па талонах...
Ці не забылі гэты варыянт?

І так, і гэтак: быдлам быць ці цяглам,
А шыйнік начапіць, нібыта бант,
Ці рохкаць, а як б'юць — вішчаць працягла...
Але магчымы трэці варыянт!

Даруй народ, што выю, як ваўчыца:
Паэт сьляпы прарок, а не гарант.
...Калі прымусіш ты з сабой лічыцца,
Магчыма, будзе трэці варыянт!

Аўгіньня Кавалюк

## Лявону Луцкевічу

Магілы продкаў — гэта памяць,
Каб у жыцьці нам меней падаць,
Каб памятаць свой абавязак,
Не забывацца родных казак —
Іх сэнс таемны разумець
І годнасьць мець:
Бо толькі той, хто мае годнасьць,
Шануе род, шануе роднасьць.

## Беларусы ў Петраградзе

Беларусы ў Петраградзе,
Бы рамонкі ў стылым садзе,
Нас ня тая корміць глеба
І расьцем ня так, як трэба,
Нам і сонца малавата,
І жывецца беднавата.
Але тут свае сьляды
Нам пакінулі дзяды —
А таму і мы ня згінем
Пад паўночным небам сінім!

Мікола Ляшчун

## Мой шлях

Ня стаўце покуль крыж на мне,
Заўзятыя служакі д'ябла,
Ліжыце пяткі сатане,
Цалуйце ўсё, што вам прывабна.

Вы прадалі за медзякі
Сумленьне нацыі і веру,
А я пакрочу напрасткі
У недасяжныя вам дзьверы.

Мне вера памагае жыць,
Мне зорка Бацькаўшчыны зьзяе,
Мяне ня вабіць край чужы,
А вас — заморскі спакушае.

Мяне ваш шабас не сагне
І не зьмяце на паўдарозе:
Я цяжка дыхаю ў зьнямозе —
Ды рана ставіць крыж на мне!

Ёзас Рыбікаўскас

## Віленскім беларусам

Літва — для нас усіх сьвятое слова.
Сьпяць волаты у курганах сівых...
Пад тоўшчаю вякоў замоўкла ваша мова
На Вільні вуліцах крывых.

Калі Айчыну злыдні дратавалі,
Склікалі нас турыныя рагі,
І над Грудвальдзкім полем трапяталі
І вашы бел-чырвона-белыя сьцягі.

Адна калісьці ў нас была Радзіма,
Якая горда звалася Літвой...
Ваш Каліноўскі за яе загінуў,
Пакінуўшы да волі заклік свой.

Купалы й Цёткі Вільня чула крокі,
Хадзіў тут Багдановіч малады...
А потым ворагі ў чырвоным змроку
Схавалі вас на доўгія гады.

Але падзьмуў зноў вольнасьці вятрыска
І абудзіў мінулыя часы,
І Вільня, нам супольная калыска,
Зноў чуе вашы галасы!

Юрась Пятрусёў

## Маскоўскі бальшак

Куды ідзеш, цыган-барон?
Каго вядзеш, як поп Гапон?
«Мінск — Масква» — твая дарога...
Зладзей! Пабойся Бога!
Мараль твая такая:
Куды б ня йсьці —
Абы ў Маскве (Крамлі)
Г... дзяўбсьці!

# Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі ў дакумантах

## Рэзалюцыя

### пра кансалідацыю дэмакратычных сілаў Беларусі

За час станаўленьня незалежнай рэспублікі Беларусь дэмакратычныя сілы краіны выразна ўсьвядомілі неабходнасьць цеснага ўзаемадзеяньня й каардынацыі працы ў імя абароны сувэрэннай дзяржаўнасьці, вяртаньня нашай Бацькаўшчыны на дэмакратычны шлях разьвіцьця...

У сувязі з гэтым Кангрэс пастанаўляе:

1. Стварыць Каардынацыйна-кансультатыўную раду (ККР) дэмакратычных сілаў Беларусі.

2. Вызначыць галоўнай задачай ККР каардынацыю ў ажыцьцяўленьні плятформы дзеяньняў, ухваленых Кангрэсам...

## Супольная плятформа

Мы, удзельнікі Кангрэсу...

зыходзячы з таго, што кіраваньне прэзыдэнта Лукашэнкі за пяць гадоў паставіла краіну перад пэрспэктывай анэксіі, выклікала найцяжэйшы эканамічны крызіс, які прывёў да імгненнага зьбядненьня большасьці народу, сьвядома нішчыла беларускую мову й культуру,

выказваючы недавер прэзыдэнту Лукашэнку й гвалтоўна ім створанай антыдэмакратычнай сыстэме ўлады,

усьведамляючы сваю адказанасьць за лёс Беларусі, беларускага народу, ягонай культуры й мовы, за разьвіцьцё грамадзтва ў кірунку дэмакратыі, захаваньня правоў чалавека ды асноўных свабодаў, рэфармаваньня эканомікі дзеля стварэньня годных умоваў жыцьця кожнага,

нагадваючы, што паўнамоцтвы прэзыдэнта Лукашэнкі паводле Канстытуцыі канчаюцца ў ліпені 1999 году, і не прызнаючы ніякага незаконнага падаўжэньня гэтага тэрміну,

прымаем наступную плятформу ўзгодненых дзеяньняў дэмакратычных сілаў у межах канстытуцыйнай законнасьці:

1. Салідарна выступаем у абарону незалежнасьці Беларусі... супраць далучэньня Беларусі да Расеі.

2. Падтрымліваем рашэньне Вярхоўнага Савета Беларусі аб правядзеньні прэзыдэнцкіх выбараў у вызначаны Канстытуцыяй тэрмін...

3. Падтрымліваем справядлівыя патрабаваньні прафсаюзаў аб павышэньні рэальнага заробку й пэнсіяў...

4. Дамагаемся вызваленьня палітычных вязьняў, патрабуем публічнага й безстароньняга разгляду ўсіх палітычна матываваных судовых справаў...

6. Лічым неабходным узгадняць стаўленьне дэмакратычных партыяў да любых выбарчых ініцыятываў ды каардынаваць свае дзеяньні.

7. Падтрымліваем незалежную прэсу, бяром на сябе абавязак бараніць журналістаў ад рэпрэсіяў уладаў.

8. Патрабуем ад уладаў... рэгулярнага прамога эфіру прадстаўнікам арганізацый — удзельнікаў Кангрэсу — на радыё й тэлебачаньні...

9. Даручаем ККР Кангрэсу... распрацаваць канкрэтныя меры па прызнаньні рыжыму Лукашэнкі нелегітымным унутры краіны і ў міжнародных адносінах, калі канстытуцыйная ўлада ня будзе адноўленая да 20 ліпеня 1999 году...

## Рэзалюцыя

### пра пагрозу дзяржаўнасьці й сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь

25 сьнежня 1998 году прэзыдэнт Расейскай Фэдэрацыі Б. Ельцын і прэзыдэнт Беларусі А. Лукашэнка заключылі антыканстытуцыйны пакт, які пагражае незалежнасьці беларускай дзяржавы й фактычна вядзе да анэксіі Беларусі Расеяй. Гэты пакт ёсьць пагроза йснаваньню беларускай нацыі.

Кангрэс дэмакратычных сілаў Беларусі,

дэкляруючы сваю прыхільнасьць да старадаўніх традыцыяў беларускай дзяржаўнасьці, да палажэньняў, замацаваных у «Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі Беларусь» ад 27 ліпеня 1990 году й Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 1994 году,

пацьвярджаючы нязьменнасьць прынцыпам дэмакратычнай, праўнай, сацыяльнай дзяржавы ды сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь,

грунтуючыся на міжнародных абавязках Рэспублікі Беларусь і ўсьведамляючы сваю адказнасьць перад нашчадкамі за захаваньне нацыянальнай дзяржаўнасьці й культурнай спадчыны,

ЗАЯЎЛЯЕ:

1. Пра сталую каштоўнасьць дзяржаўнасьці, незалежнасьці Рэспублікі Беларусь як неабходнай умовы разьвіцьця дзяржавы й беларускае нацыі;

2. Пра неабходнасьць як найхутчэйшай адстаўкі прэзыдэнта РБ, як палітыка, які паставіў сувэрэнную дзяржаўнасьць Беларусі на мяжу зьнішчэньня, давёў краіну да сацыяльнай варожасьці, жабрацтва й міжнароднай ізаляцыі;

3. Пра неабходнасьць поўнага аднаўленьня легітымных органаў дзяржаўнай улады праз правядзеньне свабодных, дэмакратычных выбараў у вызначаныя Канстытуцыяй тэрміны;

4. Пра сваю рашучасьць бараніць незалежнасьць, дзяржаўнасьць і сувэрэнітэт краіны, процістаяць анэксіі Беларусі ўсімі даступнымі сродкамі...

## Рэзалюцыя

### пра негрунтоўнасьць эканамічнай і сацыяльнай палітыкі прэзыдэнта і ўраду Рэспублікі Беларусь

За пяць гадоў праўленьня прэзыдэнта Лукашэнкі развал эканомікі краіны й разбурэньне сацыяльнай палітыкі набылі крызісны характар. Зношанасьць асноўных фондаў на прадпрыемствах склала амаль 90%. Спынілася тэхнічнае пераўзбраеньне, асваеньне новых тэхналёгіяў і ўвядзеньне навукаёмістых вытворчасьцяў. Больш 80% выраблянай прадукцыі не адпавядае стандартам якасьці.

Найбольш моцныя выпрабаваньні прыпадаюць на сельскую гаспадарку, якая штогод зьмяншае аб'ёмы сваёй вытворчасьці... Састарэла й разбураецца матэр'яльна-тэхнічная база гаспадаў і саўгасаў...

Ва ўмовах развалу эканомікі хутка зьніжаецца ўзровень сацыяльнай абароненасьці насельніцтва. Беларусь пераўтварылася ў краіну жабракоў, 83% ейных жыхароў жыве за рысай беднасьці... Людзі ня ў стане купіць ні харчы, ні лекі... больш чым у тры разы павялічылася натуральнае зьніжэньне насельніцтва: штогод зь беларускай зямлі зьнікае столькі людзей, колькі іх пражывае ў такіх гарадах, як Астравец ці Рагачоў.

Урад ня ў стане забясьпечыць сацыяльныя гарантыі й правы працоўных. Ліквідаваныя сацыяльныя гарантыі нават ахвярам Чарнобыльскай катастрофы.

Кангрэс... ускладае на прэзыдэнта ды ягоны ўрад віну за... жабрацкае йснаваньне людзей.

Кангрэс дэмакратычных сілаў пастанаўляе:

1. Прызнаць няслушнай эканамічную й сацыяльную палітыку А. Лукашэнкі... і патрабаваць ягонай адстаўкі.

2. Лічыць важнейшымі задачамі:

2.1. Перадачу ўлады ўраду народнага даверу, сфармаванага зь ліку найбольш аўтарытэтных і прафэсійна падрыхтаваных спэцыялістаў.

2.2. Пашырэньне сувязяў з нашымі суседзямі, у першую чаргу з Украінай, Польшчай і Літвой.

2.3. Стварэньне вытворчасьцяў з новымі тэхналёгіямі й новай тэхнікі як прыярытэту эканамічнай палітыкі. Прадстаўленьне гэтым вытворчасьцям падатковых ільгот і рэжыму найбольшага спрыяньня.

2.4.... рэфармаваньне сістэмы кіраваньня эканомікай і падаткавай сыстэмы, зьніжэньне ўзроўню падаткаабкладаньня, удасканаленьне сацыяльнай сфэры, абмежаваньне адміністрацыйнага ціску дзяржавы на прадпрымальніцкую дзейнасьць.

2.5. Стабілізацыю нацыянальнай валюты й спыненьне друкаваньня незабясьпечаных грошай...

## Рэзалюцыя

### пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі

У Беларусі ўсталяваўся аўтарытарны рэжым, які адкрыта парушае асноўныя правы й свабоды чалавека:

— грамадзяне Беларусі з восені 1996 году пазбаўленыя магчымасьці ўдзельнічаць у кіраваньні сваёй краінай. Так званы Нацыянальны Сход не абраны насельніцтвам, а сфармаваны прэзыдэнтам Лукашэнкам; паралізаваная праца легітымнага Вярхоўнага Савету РБ;

— парушаны прынцып падзелу ўлады, не йснуе незалежнага суда;

— груба парушаюцца правы грамадзянаў на атрыманьне й распаўсюджаньне аб'ектыўнай інфармацыі... улада манапалізавала электронныя СМІ; незалежная прэса знаходзіцца пад уціскам; журналісты пераследуюцца за выкананьне сваіх прафэсійных абавязкаў;

— рэзка абмежаванае права грамадзянаў на правядзеньне мірных шэсьцяў, мітынгаў і дэманстрацыяў, на аб'яднаньне ў прафэсійныя саюзы, грамадзкія арганізацыі...

— парушаецца права насельніцтва на атрыманьне адукацыі ў роднай мове;

— у Беларусі беспакарана дзейнічаюць фашысцкія й неафашысцкія арганізацыі, пашыраецца антысемітызм.

Кангрэс дэмакратычных сілаў заяўляе:

1. Асноўныя правы й свабоды грамадзянаў зьяўляюцца вышэйшай каштоўнасьцю, і кожная ўлада, якая іх парушае, ня можа быць прызнаная дэмакратычнай.

2. Бяз доступу апазыцыйных дэмакратычных сілаў да СМІ немагчыма правядзеньне ў Беларусі свабодных выбараў у ворганы дзяржаўнага кіраваньня.

3. Кангрэс лічыць недапушчальным перасьлед за палітычныя перакананьні й патрабуе вызваліць усіх вязьняў сумленьня, у тым ліку А. Шыдлоўскага, У. Кудзінава, А. Клімава, У. Плешчанку, і патрабуе справядлівага разгляду справаў Т. Віньнікавай, В. Лявонава й В. Старавойтава.

## Кангрэс

### дэмакратычных сілаў Беларусі

канстатуючы,

што палітыка прэзыдэнта Лукашэнкі прывяла да таго, што сёньня міжнародны аўтарытэт Беларусі самы нізкі ад часу аднаўленьня незалежнасьці;

што ўзаемадачыненьні Беларусі з замежнымі дзяржавамі й міжнароднымі арганізацыямі праз палітыку беларускіх уладаў практычна разараваныя й гэта наносіць непапраўную шкоду інтарэсам дзяржавы й дабрабыту народу;

што Беларусь сёньня намаганьнямі ўладаў успрымаецца міжнароднай супольнасьцю як ненадзейны партнёр, парушальнік міжнародных пагадненьняў...

што зьнешняя палітыка беларускіх уладаў становіцца ўсё больш агрэсіўнай і непрадказальнай, небясьпечнай для стабілізацыі ў рэгіёне, —

1. Заклікае парляманты, урады й грамадзкасьць сьвету падтрымаць незалежнасьць Беларусі й спадзяюцца, што ўрады ЗША, Вялікабрытаніі ды Расейскай Фэдэрацыі выканаюць свае абавязкі, якія яны сумесна прынялі 5 снежня 1994 году.

2. Заяўляе пра поўную юрыдычную негрунтоўнасьць усіх міжнародных пагадненьняў, якія прынятыя нелегітымнымі ворганамі ўлады й пасягаюць на незалежнасьць Беларусі.

3. Заяўляе, што адказнасьць за крызісны стан адносінаў Беларусі зь міжнароднай супольнасьцю... цалкам ляжыць на прэзыдэнце ды ўрадзе Беларусі.

4. Пацьвярджае прыхільнасьць дэмакратычных сілаў Беларусі прынцыпам дэмакратыі, павагі да правоў чалавека, эканамічных рэформаў, нэўтралітэту, на грунце якіх павінны будавацца адносіны нашай дзяржавы са зьнешнім сьветам.

5. Пацьвярджае зацікаўленасьць... у нармалізацыі міжнародных адносінаў з усімі краінамі, з суседнімі дзяржавамі на прынцыпах безумоўнай павагі да дзяржаўнага сувэрэнітэту, добрасуседзтва ды ўзаемакарыснага супрацоўніцтва.

6. Выказвае ўдзячнасьць міжнародным арганізацыям, парлямантам, урадам і грамадзкасьці дэмакратычных дзяржаваў за падтрымку прынцыпаў дэмакратыі ў Беларусі й непрызнаньне дыктатарскіх тэндэнцыяў беларускага кіраўніцтва.

7. Заклікае міжнародную супольнасьць разьвіваць адносіны з дэмакратычнымі сіламі Беларусі для стварэньня асновы будучых адносінаў буйнамаштабнага ды ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва.

Алег Аблажэй

# (Р)эвалюцыя паводле Мёбіюса

Бываюць у жыцьці падзеі, самі сабой нязначныя, але яны, нібыта павелічальнае шкло, робяць яскравай сутнасьць працэсу. Ну, вось, скажам, пячатка ў пашпартах закаханых: яны ўжо безь яе жылі й спалі разам, аднак толькі «штэмпялькі» засьведчылі – так, гэта сапраўдная сям'я.

Такім «павелічальным шклом», што паказала, які цяпер грамадзкі лад у Літве, стаўся, на маю думку, славуты «Венскі баль» у віленскай ратушы. Імпрэза гэтая была задуманая амбасадарам Аўстрыі, бо якраз у Вене такія балі зьяўляюцца даўняй традыцыяй. І на гэтых балях асноўны занятак – «танцы да ўпаду», вальсы, танга, факстроты праз усю ноч, суцэльная клясыка. І абавязковая ўмова – усе прыходзяць парамі, прычым мужчыны павінныя быць у чорных смокінгах, дамы – у балёвых сукнях. Да таго ж балі гэтыя – харытатыўныя, г. зн. увесь прыбытак ад продажу вельмі дарагіх білетаў ідзе на дабрачынныя мэты, у нашым выпадку – для дзіцячага аддзяленьня шпіталя ў Сантарышках.

Здавалася б, што тут такога: чарговая «тусоўка» багатых людзей, дый мэта высакародная, і, увогуле, кожны дзень можна пабачыць у бясконцых сэрыялах цэлыя плоймы паноў і пань у балёвых строях. У рэшце рэшт, за тое і змагаліся, каб усё ў нас было «як у людзей».

Аднак, нечакана для арганізатараў, віленскі «Венскі баль» выклікаў сапраўдную буру эмоцыяў. Мабыць таму, што падрыхтоўка была аж занадта публічная: па ТВ шырака абмяркоўвалі ды смакавалі кошты й фасоны сукняў, склад удзельнікаў, парадак правядзеньня ды іншыя падрабязнасьці. Пасыпаліся пратэсты, распачаліся бурлівыя дыскусіі ў СМІ. А славуты каўнаскі «правадыр беднякоў», лідэр Саюзу Свабоднай Літвы Вітаўтас Шустаўскас, падчас балю арганізаваў дэманстрацыю пратэсту – цэлы натоўп кепска апраненых людзей, якія ціснуў на шарэнгі паліцыянтаў, што адгароджвалі ўваход у ратушу. «Простыя людзі» сустракалі выходзячых зь лімузінаў удзельнікаў балю скандаваньнем «Va-gys! Va-gys!» («Зладзеі! Зладзеі!»). «Зладзеямі» былі Прэзыдэнт Літвы Адамкус, сьпікер Сойму Ландзбэргіс, прэм'ер-міністар Вагнорус, іншыя высокія чыны й бізнэсоўцы ды, вядома, іхнія жонкі...

А гадоў восем таму кожнае зьяўленьне гэтых самых асобаў перад такім самым натоўпам выклікала зусім іншыя эмоцыі. Усе памятаюць шчырыя крыкі «Ландзбэргіс! Ландзбэргіс!» перад літоўскім парлямантам таксама ў студзені толькі 1991-га, ды са сьлязьмі на вачох. А тут – на табе! – «злодзеем» зрабілі. І цяпер «бацька нацыі» ужо не заклікае «мілых людзей Літвы» (улюбёны зварот узору 91-га) прыйсьці да будынку, дзе ён, наадварот, паліцэйскім кардонам адгарадзіўся.

Адной з найчасьцей бачаных сёньня на экранах літоўскай тэлевізіі зьяўляецца асоба, якая гаротна хітае галавой і мовіць са скрухаю: «Не, не за такую Літву мы змагаліся...» І такою асобаю можа быць і селянін, і былы дэсыдэнт, і настаўнік. За ТАКУЮ, даражэнькія мае, за ТАКУЮ, бо іншай быць проста й не магло.

Людзі з натоўпу перад ратушай, самі таго не ўсьведамляючы, былі ў той момант шчырымі камуністамі. Ня тымі, з каторымі ЦЯПЕР асацыюецца гэтае слова – мардатымі сакратарамі ды парторгамі – а тымі, з часоў Кампанэлы ці Томаса Мора, хто сапраўды верыў, што магчымае на гэтым сьвеце справядлівае грамадзтва, дзе ўсе роўныя, багатыя ды шчасьлівыя. Хочаш прызнаваць ці не, але капіталізм у ва многім такі й ёсьць, як яго малявалі савецкія прапагандысты: шмат што ў ім адбываецца «па законах джунгляў» і, як кажуць у Расеі: «Кто смел, тот и съел». Ды вось трэцяга не дадзена: або калгасы й ГУЛАГ, або «Венскі баль» для адных ды аб'едкі са стала для астатніх.

Калісьці ў Расеі пасьля рэвалюцыі былі паўстаньні «за камунізм», але без бальшавікоў і камісараў. Цяпер Шустаўскас хоча капіталізму без капіталістаў...

«Павелічальнае шкло» Венскага балю паказала, што наіўныя спадзяваньні «мілых людзей Літвы» на тое, што вось прагонім бальшавікоў ды расейцаў, прывядзем да ўлады сваіх правадыроў, – і паплывуць малочныя рэкі ў кісельных берагах, аказаліся ня больш, чым ілюзіяй, марай аб Горадзе Сонца. Што ўсё адначасова складаней і глыбей, а ў нечым грубей і прымітыўней. Што мяжа паміж дабром і злом не супадае зь мяжою паміж камуністымі й дэсыдэнтамі, літоўцамі й расейцамі, багатымі й беднымі...

Філёзафы-эвалюцыяністы лічаць, што чалавецтва разьвіваецца па сьпіралі – і кожны раз праходзіць тыя самыя стадыі, хаця й на іншым узроўні. Мне ж часам здаецца, што чалавецтва рухаецца наперад па стужцы Мёбіюса, у якой канцы змацаваныя так, што яна мае толькі адну плоскасьць. І як ня йдзі – вяртаесься на тое самае месца й наступаеш на тыя самыя граблі, намі ж пакінутыя... (Уявіце Маякоўскага, які ўбачыў бы зноў на пашпарце двухгаловага арла!)

Часам думаеш, праходзячы паўз чарговы пікет ля будынку ўраду: а калі б памяняць тых, хто з плякатамі, на тых, хто ва ўрадзе? Што б зьмянілася? А нічога! Бо не было яшчэ ў гісторыі такой улады, якая найперш рупілася б пра суграмадзянаў, а толькі потым – пра сябе. І нікому тут не паскардзісься.

Возьмем суседнюю Польшчу. Ужо даўно няма там ані камуністаў, ані расейцаў і даўно пры ўладзе суперархірабочая «Салідарнасьць». І пабожныя ўсе. І нават сам намесьнік Бога зь імі. І што? Страйкі, пратэсты, мітынгі...

Так будзем жыць і мы. Ня будзе ані «бацькоў нацыі», ані «справядлівых урадаў», – будзе вечная барацьба за свае правы. Дарога доўгая, а іншай няма.

А мне вось неяк шкода: і тых, хто быў на тым балі (выгляд у іх такі, што ім аніякія ўборы ўжо не дапамогуць), і тых, што мітынгавалі на плошчы (яны ўжо ніколі не займеюць гэткіх строяў). А так – хай сабе балююць. Павінен жа ў рэшце рэшт хоць нехта жыць добра? Бо за што змагаліся?

**Інфармацыя пра набыцьцё сымбалічнага грамадзянства БНР: 72 55 95 або 61 65 32.**



*Здымак Генадзя Жынкова*

## З АБШАРАЎ ВКЛ

■ «Каронны нумар» інтэграцыі Расеі й Беларусі — супрацоўніцтва МАЗа ды Яраслаўскага маторнага заводу — праваліўся, ня даўшы ніякіх вынікаў. Абодва бакі абвінавачваюць цяпер адзін аднаго.

■ Тымчасам на Менскім аўтамабільным заводзе насьпела крызісная сытуацыя ў сувязі зь няўплатай рабочым заробку.

■ Улады Вялікабрытаніі абдумваюць пытаньне аб адмене бязьвізавага ўезду ў сваю краіну грамадзянаў Літвы з прычыны масавага наплыву тых, хто пранікае ў краіну пад выглядам турыстаў і застаецца там працаваць.

■ Тымчасам сёлета маюць быць адмененыя візы грамадзянам Літвы для ўезду ў краіны Шэнгенскага пагадненьня (10 краінаў Эўропы).

■ Менскія ўлады працягваюць здымаць з пасадаў беларускую нацыянальна сьведамую інтэлігенцыю. Так апошнім часам былі «адпраўленыя на пэнсію» гэткія вядомыя ў Беларусі людзі, як загадчыца Гродзенскага музэю імя Багдановіча слынная паэтка Д. Бічэль-Загнетава, дырэктар Скарынінскага Цэнтру праф. А. Мальдзіс, галоўны рэдактар «Голасу Радзімы» сп. Мацкевіч.

■ 23 студзеня ў віленскай ратушы адбыўся першы Венскі баль, які быў неадназначна ацэнены ў грамадзтве Літвы.

■ 25 студзеня ў Панявежысе быў забіты ля пад'езду свайго дому пракурор Г. Сярэйка, які займаўся расьследаваньнем арганізаванай злачыннай дзейнасьці ў гэтым вельмі крымінагенным літоўскім горадзе.

■ **27 студзеня ля менскага Палацу спорту адбыўся 10-тысячны мітынг працоўных, арганізаваны як афіцыйнымі,** гэтак і вольнымі прафсаюзамі. Было пастаноўлена — калі ўлады ня выканаюць патрабаваньняў мітынгуючых, арганізаваць у красавіку агульны страйк.

■ Прэзыдэнт ЛР Адамкус падпісаў дэкрэт аб амністыі, дзякуючы якому на волю выйшаў былы рэдактар адной з буйнейшых газэтаў «Летувос айдас», асуджаны на 5 гадоў за прысваеньне рэдакцыйных грошаў.

■ Камэнтуючы працу Кангрэсу дэмакратычных сілаў дыктар беларускай тэлевізіі зьедліва параўнаў удзельнікаў кангрэсу з людзьмі, каторыя імкнуцца кіраваць аўтамабілем, пазбаўленага колаў. Што ж, час пакажа ў чыіх руках знаходзіцца сапраўднае «кола гісторыі».

■ Улады Гародні ўвялі новыя абмяжаваньні ў гандлю. Масла цукар і танныя айчынныя цыгарэты будуць прадавацца толькі па суботах.

■ Напрыканцы студзеня Беларусь наведаў сьпікер Вярхоўнай Рады Ўкраіны сп. Ткачэнка, які ў сваіх выступленьнях не шкадаваў словаў захапленьня «росквітам беларускай эканомікі, мудрасьцю ўрада, правільнасьцю абранага курсу». І ня дзіва — большасьць у ВР Украіны маюць камуністы.

■ Пасьля павелічэньня акцызаў на нафтапрадукты ў Літву ўсімі магчымымі спосабамі хлынуў паток нелегальнага, таньнейшага бензіну з Расеі ды Беларусі. Ужо банкрутавала некалькі буйных аўтазаправак паблізу Калінінградзкай вобласьці.

■ 2 лютага ў зьвязку са спыненьнем паставак нафты з Расеі спыненая праца на нафтаперапрацоўчым заводзе ў Мажэкяй.

■ Адной з чатырох віцэ-міс СНД на конкурсе ў Маскве стала дзяўчына зь Беларусі. Журы было аб'ектыўнае, што рэдка здараецца на падобных імпрэзах: ніводнае з галоўных месцаў не было прысуджанае грамадзянцы Расеі.

■ **11-12 лютага 1999 году ў канфэрэнц-залі гатэлю «Neringa» быў пра**ведзены сэмінар для беларускіх журналітсаў, прысьвечаны прэзыдэнцкім выбарам у РБ. На ім прысутнічалі як прадстаўнікі незалежных, гэтак і дзяржаўных беларускіх СМІ. Арганізавалі сэмінар Савет Эўропы, Літоўскі цэнтар журналістыкі, МЗС Літвы.

*Падрыхтаваў* **Алег Аблажэй**

### Умовы падпіскі

Як мы ўжо паведамлялі чытачам далёкага замежжа, да нас з найменшымі стратамі даходзяць імянныя чэкі. Дасылайце іх рэдактару газэты Алегу Мінкіну **(Oleg Minkin)** або сакратару Паўлу Саўчанку **(Pavel Savcenko)**. Кошт падпіскі на год — **20$**.

Жыхары Літвы могуць падпісацца ў памешканьні рэдакцыі або ў кожным аддзяленьні сувязі. Падпісны індэкс газэты — **0187**. Кошт падпіскі на год — **12 Lt.**

Падпішчыкам у Беларусі паведамляем адрас у Гродна:

*230023 Гродна-23, п/с 194, Данучe Бічэль-Загнетавай.* Кошт падпіскі на год -- сума ў беларускіх рублях эквівалентная **3$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Расеі паведамляем адрас у Санкт-Пецярбурзе:

*191028 Санкт-Петербург, ул. Сикейроса 6-1-364, Ковалюк Евгении Трафимовне.* Кошт падпіскі на год — сума ў расейскіх рублях эквівалентная **5$** (паводле камэрцыйнага курсу).

Падпішчыкам у Польшчы паведамляем адрас у Беластоку:

*Wieslaw Choruzy, Porosly 18 «a», 16-006 Barszczewo.* Кошт падпіскі на год — сума ў злотых эквівалентная **8$**.

Вялікая просьба пры перасылцы грошай указваць свой і наш дакладны паштовы індэкс і адрас.

Спадзяемся на вашую дапамогу й разуменьне таго, як важна адрадзіць і захаваць беларускі друк менавіта ў Вільні, нашай старажытнай сталіцы.

! *Для паляпшэньня працы рэдакцыі просім дасылаць вашыя допісы на адрас:* ***«Рунь», 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania.***

Ахвяраваньні на газэту:

| | | |
|---|---|---|
| Я. **Баран** | з Канады | 32 $ |
| Ю. **Весялкоўскі** | з Амэрыкі | 20 $ |
| сп. **Шчэцька** | з Амэрыкі | 180 $ |
| Я. **Ярмалковіч** | з Польшчы | 7 $ |
| М. **Швэдзюк** | з Англіі | 20 $ |
| В. **Махнач** | з Амэрыкі | 20 $ |
| К. **Акула** | з Канады | 20 $ |
| Ю. **Андрусішын** | з Амэрыкі | 25 $ |
| Я. **Каханоўская** | з Амэрыкі | 25 $ |
| А. **Шукелойць** | з Амэрыкі | 50 $ |

**РУНЬ** газэта беларусаў Літвы
выходзіць адзін раз на месяц
заснавальнік і выдавец **Таварыства Беларускай Культуры ў Літве**
адрас рэдакцыі: **2001 Vilnius, Žygimantų 12-3**
тэлефоны: **42 38 02, 61 65 32**
друк: **АТ «Спаўда»**
замова ___
наклад **1000** асобнікаў
Сябры рэдакцыі:
**Алег Мінкін** - рэдактар
**Павал Саўчанка** - сакратар
**Алег Аблажэй** - мастацкі рэдактар
**Сяргей Вітушка** - гісторыя й этнаграфія
**Андрэй Цярэньцеў** - рэкляма й інфармацыя